Выдавец:
Прыватнае прадпрыемства
«Дарога на Вільню плюс»,
пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

Выдаецца са снежня 1994 года

6 (566) 10 лютага 2011 года

Кошт свабодны.

Ïîëàöê³ ðà¸í

# Çíàéøëî ñâàþ í³øó

■ Станіслаў Раманчук

**У наш час, распачынаючы нейкую справу, вельмі важна адшукаць на рынку тавараў і паслуг сваю перспектыўную нішу і добра прадумаць стратэгію далейшага развіцця.**

Менавіта так больш за 10 год назад дзейнічаў у Наваполацку пачынаючы прадпрымальнік Васіль Чычыкайла. Сёння ён ужо прызнаны айчынны бізнесмен, кіраўнік вядомай у Беларусі фірмы "Белсплат" з колькасцю працуючых амаль паўтысячы чалавек. Гэта прадпрыемства займаецца не толькі вырабам, мантажом і абслугоўваннем металічных дзвярэй з дамафоннымі сістэмамі. Спецыялісты фірмы таксама займаюцца ахоўнай і пажарнай сігналізацыяй, прамысловым альпінізмам і біяаховай будканструкцый ад агню. Па ўсёй краіне "Белсплат" мае 18 сваіх філіялаў і амаль 200 цэнтраў гарантыйнага сервісу. Калісьці тут быў невялікі ўчастак, а зараз паўстаў сучасны завод па вырабу па італьянскай тэхналогіі да 6 тысяч металічных дзвярэй і не толькі для жылых дамоў. На гэтым прадпрыемстве ў стане вырабіць хутка па заказах дзверы для офісаў, катэджаў, інтэрнатаў неабходных форм і памераў з рознай ступенню абароны. Яны ўстойлівыя да высокіх тэмператур, захоўваюць неабходны сёння разумны баланс цаны і якасці. Вырабы гэтай фірмы адпавядаюць міжнародным стандартам якасці і разыходзяцца па ўсёй краіне.




## Лічба нумара

**1,5 млн. тон** – столькі расійскай нафты, згодна падпісаных кантрактаў, павінна паступіць у Беларусь у лютым па трубаправоднай сістэме. Яшчэ раней абедзве краіны ўзгаднілі паміж сабой нафтавы баланс, які прадугледжвае пастаўкі з РФ у 2011 годзе 21,7 млн. тон. З іх большую частку паставак "чорнага золата" (18 млн. тон) запланавана паставіць па трубаправодзе, а астатні аб'ем нафты – па чыгунцы. Праўда, існуе дамоўленасць, што беларусы вольныя выбіраць любую колькасць сыравіны.

Такой магчымасцю наша краіна і скарысталася, заключыла дагавор з расійскімі кампаніямі на пастаўку нафты толькі на канец студзеня і ў лютым. Адначасова айчынныя СМІ паведамілі, што першы танкер з азербайджанскай нафтай для беларускіх НПЗ прыбыў у адзін з украінскіх партоў. Увогуле, гэтая схема паставак таксама даволі складаная. Спачатку нафту з бакінскіх радовішчаў перапампоўваюць 837 км для закачкі ў танкеры. І далей яе вязуць па Чорным моры крыху больш за тысячу км, што ў 14 разоў бліжэй, чым маршрут з Венесуэлы.

Далей стратэгічная сыравіна з Азербайджана перкачваецца на Мазырскі НПЗ па двух нафтаправодах "Адэса-Броды" і "Дружба". Такім чынам, сёлета азербайджанскі партнёр можа паставіць нам 4 млн. тон нафты, што недаспадобы расійскаму боку. Справа ў тым, што Расія спецыяльна так абставіла ўмовы паставак сваёй нафты, скіраванай на выцясненне з заводаў у Наваполацку і Мазыры іншых альтэрнатыўных пастаўшчыкоў нафты. Як ні крыўдна, але і ў рамках ствараемай Адзінай эканамічнай прасторы не адбылося выроўнівання цэн на газ і на нафту ў нас і ў РФ.

Цана нафты для беларусаў амаль на 50 долараў большая, чым для расійскіх НПЗ. У прыватнасці, у лютым такое павышэнне складае 40 USD/тона. Да таго ж, гэтай зімой расійскія нафтавыя кампаніі не будуць нам пастаўляць нафту на перапрацоўку на давальных умовах для далейшай адгрузкі ў РФ гатовых нафтапрадуктаў. Яны толькі прадаюць нам нафту, і рабіце з ёй, што жадаеце, пры такой вось "прэміі" да цаны нафты.

Спецыялісты хутка падлічылі, што Беларусі ў гэтым годзе прыйдзецца аддаць за нафту па павышаных цэнах каля 900 млн. долараў дадаткова.

Аднак у нашай краіны іншага выйсця не было, паколькі заводы не мелі сыравіны і знізілі сваю нагрузку да тэхналагічнага мінімуму. У выніку бюджэты Гомельскай і Віцебскай абласцей з-за мінімальнай загрузкі НПЗ у студзені недаатрымалі істотную суму сродкаў і апынуліся ў складанай сітуацыі. Дзеля аб'ектыўнасці, у гэтым годзе сітуацыя ўсе ж лепшая, чым яна была з пастаўкамі нафты ў 2010 годзе. Тады загрузку беларускіх заводаў забяспечылі некалькі дзясяткаў танкераў з нафтай з далёкай Венесуэлы. Зараз складваецца сітуацыя, што Расія аб'ектыўна будзе імкнуцца перашкаджаць беларускім планам атрымоўваць у перспектыве і нафту з Казахстана з яго вялікімі запасамі.

Крэмль так павёў справу, што менавіта Беларусі будзе выгадней як мага болей закупляць расійскай нафты. У гэтым выпадку танней для нас будзе расійская сыравіна і ніжэй прэміі для кампаній-пастаўшчыкоў "Лукойл" і "Раснафта" да цаны пастаўляемай ім нафты. Масква разлічыла дакладна, што мы павінны браць балансавы аб'ем сыравіны ў Расіі, каб разлічваць на абяцаны памер субсідый для беларускай нафтаперапрацоўкі ў памеры 4,1 млрд. долараў на гэты год.

Ды і спрачацца з уплывовым суседам не выпадае, бо РФ і РБ узгаднілі графік падрыхтоўкі і пачатак работ па будаўніцтву ў Беларусі атамнай станцыі. Нулявы цыкл, так званыя земляныя работы на будучай АЭС павінны пачаца ўжо гэтай восенню. Іншая справа, што могуць быць згорнуты стратэгічныя планы венесуэльцаў наконт набыцця актываў беларускіх НПЗ. Як бы там ні было, а відавочна, што на першы план выходзіць задача пачатку ў Беларусі структурнай перабудовы эканомікі. Нялёгкія часы чакаюць стратныя прадпрыемствы. З імі будуць разбірацца, як ужо аб'яўлена, радыкальна, ад прыватызацыі да ліквідацыі. Пра гэта гаворыцца адкрыта на самым вышэйшым узроўні, а пакуль расійская нафта паступае нам згодна падпісаных кантрактаў.

Ïàñòàâñê³ ðà¸í

# Íå ïàøêàäàâàëà¢ ðîäíóþ ìàö³

■ Кастусь Александровіч.

**Апошнім часам жыццё стала досыць жорсткім, багатым на розныя праблемы, у выніку чаго асобныя людзі канчаткова губляюць чалавечае аблічча**

Вось і ў Пастаўскім раёне ў мінулым годзе адзначаны рост практычна ў два разы зафіксаваных цяжкіх злачынстваў, на трэць павялічылася колькасць правапарушэнняў па лініі крымінальнага вышуку. Гэту трывожную статыстыку дапоўніла напярэдадні светлых каляндных святаў жудаснае забойства ў вёсцы Турлы. Там зляцеў з "катушак" беспрацоўны, раней судзімы жыхар. Ён пасварыўся п'яным са сваёй старэнькай маталяй і як раз'юшаны звер пачаў моцна збіваць яе нагамі і кулакамі. Потым экспертыза выявіла на целе 78-гадовай нябожчыцы 57 такіх udараў, шматлікія смяротныя пераломы. Сын-забойца арыштаваны, а за такое злачынства ў адносінах да самага блізкага чалавека на свеце нелюдзю пагражае пажыццёвае зняволенне альбо турма на тэрмін да 25 гадоў. Між тым, здзіўляе і пэўная мяккасць суда ў адносінах такіх рэцыдывістаў. Летась у гарпасёлку за аналагічнае забойства сваёй маці-пенсіянеркі сын-п'яніца атрымаў пакаранне толькі 13 з палову гадоў калоніі строгага рэжыму. Пры гэтым п"яны забойца пры затрыманні спрабаваў аказаць актыўнае супраціўленне аперпгрупе міліцыі...

Âåðõíÿäçâ³íñê³ ðà¸í

**Перапрашаем! З-за збою ў працы у камп'ютара ў мінулым нумары памылкова быў пастаўлены двойчы адзін і той жа матэрыял. Ніжэй мы змяшчаем матэрыял, які мусіў быць у мінулым нумары.**

# Ã³íóöü ëþäçû áåç âàéíû

■ Станіслаў Раманчук

**Па-ранейшаму сельская гаспадарка – адна з самых праблемных сфер эканомікі краіны ў справе ахова працы.**

Гэта яскрава пацвердзіў нядаўні трагічны выпадак у Верхнядзвінскім раёне, дзе загінулі 3 мужчыны пры абрушэнні даху закінутай фермы ў вёсцы Дубровы. Яшчэ трое работнікаў КУСХП "Каханавічы" на рабоце па разборцы драўляных канструкцый памяшкання з вельмі цяжкімі траўмамі былі дастаўленыя ў бальніцу. Адразу пасля гэтай бяды была заведзена пракуратурай крымінальная справа. Высвятленнем усіх абставін надзвычайнага здарэння занялася і спецыяльная камісія на чале з адным з намеснікаў старшыні Віцебскага аблвыканкама. Вырашана сем"ям загінуўшых і пацярпелых выплаціць неабходную кампенсацыю, хоць памерлых кармільцаў не вернеш. Але відавочна, што нельга было накіроўваць людзей на такія работы без адпаведнага допуску і правядзення неабходнага інструктажа па захаванні тэхнікі бяспекі. На практыцы часта такія правілы ігнаруюць і потым расплачваюцца здароўем работнікаў. У гэтым выпадку адказнасць за трагедыю панясе наймальнік і асабіста той, хто накіраваў загінуўшых на апошнюю ў жыцці работу.

## Íàäâîð'å ¢ Ãëûáîê³ì

www.rp5ru

| | чацвер 10.02.11 | | | | пятн. 11.02.11 | | | | сб. 12.02.11 | | | | нядз. 13.02.11 | | | | пн.14.02. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература, °С | -9 | -10 | -9 | -11 | -12 | -13 | -10 | -14 | -16 | -15 | -13 | -15 | -17 | -19 | -18 | -21 | -23 | -24 | -20 |
| Ціск, мм | 745 | 747 | 749 | 749 | 747 | 745 | 744 | 744 | 744 | 744 | 745 | 746 | 747 | 748 | 750 | 751 | 751 | 751 | 752 |
| Вільготнасць, % | 85 | 83 | 87 | 89 | 85 | 87 | 82 | 83 | 90 | 85 | 83 | 81 | 78 | 89 | 79 | 71 | 81 | 92 | 77 |
| Вецер м/сек | С-З 7 | С-З 6 | С-З 5 | С-З 3 | С-З 1 | С-В 2 | С-В 3 | С 4 | С 4 | С 5 | С 5 | С 5 | С 4 | С 4 | С 4 | С 3 | С 3 | С 2 | С 3 |
| | | 07:44 | 17:04 | | | 07:42 | 17:06 | | | 07:40 | 17:08 | | | 07:38 | 17:10 | | 07:35 | 17:12 | |
| | | 09:20 | 00:45 | | | 09:46 | 01:57 | | | 10:22 | 03:06 | | | 11:10 | 04:09 | | 12:14 | 05:01 | |

## Äçåíü çà äí¸ì

**По разліках спецыялістаў, 800 млн. $, атрыманых Беларуссю за еўрабонды, хопіць на 1,5-2 месяцы, бо ў лютым трэба ўнесці першы плацеж за газ. У пачатку года знешні дзярждоўг склаў 9,7 млрд. долараў пры ўстаноўленым законам аб бюджэце на 2011 год ліміце 11 млрд. $. Еўрасаюз і ЗША сінхронна ўвялі санкцыі для групы 158 беларускіх чыноўнікаў, еўрапейцы не пайшлі на арышт рахункаў "Белнафтахіма" і "Беларуськалія". Расія аднавіла пастаўкі нафты ў РБ, але па павышаных цэнах. Колькасць беларусаў, якія карыстаюцца Інтэрнэтам, дасягнула амаль 4 млн. чалавек.**

## Âàæíåéøûÿ íàâ³íû ñâåòó

**ЗША.** Белы дом афіцыйна пацвердзіў планы ўдзелу цяперашняга амерыканскага лідара Барака Абамы ў прэзідэнцкіх выбарах 2012 года, яго рэйтынг расце і дасягнуў 53 %.

**Расія.** Калегія Эканамічнага суда СНД перанесла на 20 красавіка разгляд справы па іску Беларусі да Расіі адносна ўведзеных пошлін на пастаўляемыя нафтапрадукты.

**Венесуэла.** Краіна выйшла на 1-е месца ў свеце па разведаных запасах нафты і абагнала ранейшага лідара – Саудаўскую Аравію, дзе знайшлі 265 млрд. барэляў "чорнага золата".

**Кітай.** Краіна летась упершыню абагнала Японію і стала другой у свеце па велічыні сваёй эканомікі пасля ЗША з ростам ВУП на 10,3 %, але і цэны за год выраслі на 4,6 %.

**Францыя.** Парламенцкая асамблея Савета Еўропы на сваей сесіі выказалася супраць вяртання для Беларусі статуса спецыяльна запрошанай у Савеце Еўропы (ПАСЕ).

**Польшча.** Польскае МЗС афіцыйна пацвердзіла, што не будзе нармальных, добрых адносін паміж ЕС і РБ, пакуль у Беларусі на завяршыцца самая вялікая хваля рэпрэсій.

**Казахстан.** У краіне адмянілі нацыянальны рэферэндум аб прэзідэнцтве 70-гадовага Н. Назарбаева да 2020 года, замест гэтага пройдуць датэрміновыя прэзідэнцкія выбары.

**Фінляндыя.** Рэдкі тут ледзяны дождж прывёў да эвакуацыі людзей амаль з 30 тысяч дамоў, якія засталіся без падачы электраэнергіі, вады і ацяплення памяшканняў.

**Германія.** Парламент краіны пачаў расследаванне нораваў, якія пануюць у нямецкай арміі, пасля скандалу на вучэбным судне "Горх Фок" і трагічнай гібелі на ім дзяўчыны-кадэта.

**Аргенціна.** Цудам выжыла 30-гадовая жыхарка сталіцы краіны – Буэнас-Айрэса, якая скокнула з вышыні 100 метраў з даху атэля, але ўпала на машыну таксі.

**Йемен.** Услед за іншымі краінамі кантынента тут прайшлі масавыя хваляванні насельніцтва за змену ўрада, сур'ёзна накалілася абстаноўка і ў многіх гарадах Егіпта.

**Галандыя.** Група астраномаў з дапамогай арбітальнага тэлескопа "Хаббл" адкрыла самую старажытную галактыку на адлегласці 13,2 млрд. светавых гадоў ад Зямлі.

**Эстонія.** Узнагароджанне ў суме 100 тыс. EUR атрымаў адзін з жыхароў краіны за знойдзены летась на полі з бульбай клад з 1329 сярэбраных манет вікінгаў XI стагоддзя.

**Германія.** Арганізатары буйнейшай міжнароднай выставы ў Берліне "Зялёны тыдзень" адклікалі запрашэнне для ўдзелу ў ёй для кіраўніцтва Мінсельгасхарчу Беларусі.

**Таджыкістан.** Парламент краіны ўвёў шэраг абмежаванняў на шлюбы таджыкскіх грамадзян з замежнымі, хоць тут на чатырох жанчын прыходзіцца толькі 1 мужчына.

## Ïàäçå³, ïðà ÿê³ÿ ãàâîðûöü Áåëàðóñü

**Мінск.** Віцэ-прэм'ер РБ Валерый Іваноў заявіў, што ўсюды ў сельскай гаспадарцы краіны пануюць прыпіскі, хаваюць проста абуральныя факты, па 300-500 тон мяса прыпісваюць.

**Мазыр.** З сярэдзіны сакавіка плануецца па ўкраінскім нафтаправодзе Адэса-Броды пачаць перакачваць на мясцовы НПЗ азербайджанскую нафту па своп-кантракту з Венесуэлай.

**Мінск.** У канцэрне "Белнафтахім" пацвердзілі, што і сёлета не закупляюць нафту па ўнутрарасійскіх цэнах, таму бензін у РБ не можа быць танней, чым на 0,25 $ у адносінах да АЗС РФ.

**Салігорск.** "Беларуськалій" папрасілі аказаць дапамогу ў суме 30 млрд. рублёў Аршанскаму льнокамбінату, які апынуўся ў вельмі цяжкім фінансавым становішчы.

**Астравец.** Першы энергаблок Беларускай АЭС павінен быць здадзены да 2017 года, на год пазней, чым раней планавалася, па прычыне працяглых перамоў з Расіяй.

**Івацэвічы.** Праз 7 гадоў на ваенным палігоне № 174 "Даманава" зноў прайшлі баявыя пускі сістэм рэактыўнага залпавага агню "Смерч" па мішэнях на адлегласці 20 кіламетраў.

**Гродна.** У службовыя камандзіроўкі за мяжу дырэктары прадпрыемстваў рэгіёна могуць ездзіць цяпер толькі пасля атрымання адпаведнага дазволу ад старшыні аблвыканкама.

**Мінск.** Склад нібыта боеприпасаў апазіцыі ў Малінаўцы, паказаны па БТ, як высветліла газета "Наша ніва", належыць аднаму з супрацоўнікаў прэзідэнцкай Службы аховы.

**Баранавічы.** Своеасаблівым "рэкардсменам" стаў 28-гадовы гараджанін, якога ДАІ за 3 апошнія гады штрафавала 24 разы за адсутнасць правоў (ніколі не меў)і п'яную язду.

**Мінск.** У РБ змянілі ўмовы паступлення ў гімназіі на конкурснай аснове па выніках трох экзаменаў па 3-х прадметах і гадавых адзнак за 4-ты клас (матэматыка, дзве мовы).

**Пухавічы.** Пасярод навучальнага года звольнілі з працы настаўніцу гісторыі Талькаўскай СШ з 25-гадовым стажам Наталлю Ільініч, яна была ў ініцыятыўнай групе Р. Кастусёва.

**Мінск.** Канечная станцыя Маскоўскай лініі сталічнага метро атрымала назву "Шчомысліца", што адпавядае асноўным прынцыпам гарадской гістарычнай тапанімікі.

**Брэст.** Услед за адстаўкай брата, віцэ-прэм'ера ўрада Івана Бамбіза, пасаду дырэктара нацпарка "Белавежская пушча" нечакана пакінуў Мікалай Бамбіза.

**Мінск.** Шэф кампаніі "Інфронт", партнёра ІІХФ, Бруна Марці абверг чуткі аб тым, што чэмпіянат свету-2014 па хакеі можа быць перанесены з Мінска па палітычных матывах.

**Гомель.** Кот стаў прычынай пажару ў адной з кватэр, ён любіў гуляць з бра і ўмеў уключаць яго, а потым скінуў прыбор у адсутнасць гаспадара і сам загінуў.

## Ãëûáîöêàÿ çãóø÷îíêà ³ìêíåööà ïðàá³ööà ¢ ÅÑ




■ Чэслаў Якубовіч

На мінулым тыдні Глыбоцкі малочнакансервавы камбінат прыняў удзел у міжнароднай выставе-кірмашы «Зялёны тыдзень-2011» у Берліне. Наведвальнікі высока ацанілі згушчанае малако, згушчанае з цыкорыем і вараную згушчонку. Удзел у «Зялёным тыдні» пацвердзіў канкурэнтаздольнасць і запатрабаванасць глыбоцкай прадукцыі на еўрапейскім рынку, піша "Народнае слова".

Хоць Глыбоцкі МКК пакуль што не пастаўляе сваю прадукцыю ў краіны Еўрасаюза, удзел у берлінскай выставе перспектыўны для развіцця гандлёвага супрацоўніцтва. Па словах вядучага маркетолага МКК Алены Сівіцкай, глыбоцкая згушчонка экспартуецца ў Расію, Казахстан, Лівію, Панаму, Грузію і некаторыя іншыя краіны, а цяпер рыхтуюцца дакументы на права працаваць на еўрапейскім рынку. Неўзабаве дэлегацыя камбіната накіруецца і ў Маскву – для чарговага ўдзелу ў буйным міжнародным форуме «Прадэкспа».

## Ýñòîí³ÿ àäìÿíÿå äëÿ áåëàðóñà¢ ïëàòó çà íàöûÿíàëüíûÿ â³çû

■ **Таццяна Каравянкова, БелаПАН**

Эстонія адмяняе плату за доўгатэрміновыя (нацыянальныя) візы для грамадзян Беларусі.

Як паведамляе прэс-служба МЗС Эстоніі, адпаведнае рашэнне было прынята 3 лютага на пасяджэнні ўрада. Выступаючы на ім, міністр замежных спраў Урмас Паэт заначыў, што мэта гэтага кроку-выказаць падтрымку грамадзянскай супольнасці Беларусі.

"Гэта дэманструе нашу салідарнасць і падтрымку простых беларусаў, для якіх падарожжа ў краіны ЕС зараз з'яўляецца дарагім, таму яны рэдка выязджаюць за межы Беларусі. Мы спадзяемся, што і іншыя краіны члены ЕС знойдуць магчымасці для спрашчэння паездак для беларускіх грамадзян, а Еўрасаюз у хуткім часе падпіша з Беларуссю пагадненне аб спрашчэнні візавага рэжыму, што дазволіць знізіць кошт шэнгенскіх віз".

Ён падкрэсліў, што раней аналагічнае рашэнне прынялі Польшча і Латвія.

## Ïàíàðàìà ¢íóòðûáåëàðóñê³õ ïàäçåé

**Полацк.** У адносінах да вядучага прадпрыемства горада, ВА "Шклавалакно", ЗША зноў увялі жорсткія эканамічныя санкцыі з мэтай абароны правоў чалавека пасля падзей 19 снежня.

**Наваполацк.** Па разліках, зробленых на НПЗ "Нафтан", перапрацоўка 800 тыс. тон расійскай нафты па павышаных цэнах прынясе заводу страты ў памеры 16 млн. USD.

**Дуброўна.** Летась раён наймення па вобласці узвёў жылля (каля 4 тыс. кв. м), напалову горш, чым у 2009 годзе, не справіліся з заданнямі Аршанскі, Ушацкі і Талачынскі раёны.

**Полацк.** Упершыню ў РБ Інстытут энергетыкі НАН Беларусі правядзе ў горадзе пробы сваіх новых энергаёмкіх светадыёдных лямп для асвятлення гарадскіх вуліц і плошчаў.

**Сянно.** У мясцовым райаграсэрвісе па заказе "Белагарсэрвіса" пачалі выраблць запчасткі для нахільных камер збожжаўборачных камбайнаў.

**Орша.** У горадзе затрымалі камерцыйнага дырэктара фірмы "Рускій вояж", які ў сваім БМВ перавозіў партыю падробленых расійскіх рублёў (177) наміналам па 5 тысяч.

**Глыбокае.** На мясцовым мясакамбінаце пачалі вырабляць па старажытных рэцэптах калмыцкай і татарскай кухні далікатэсную смачную вяндліну з мяса коней.

**Полацк.** На пажары ў свінарніку фермера загінулі 50 парсючкоў і 2 кані, там абваліўся дах, вартаўнік абпаліў ногі і быў шпіталізаваны, урон гаспадара фермы– больш за 55 млн.

**Шуміліна.** Адразу 7 жыхароў раёна падмануў махляр, які ўзяў у іх больш за 50 млн. рублёў, каб прыгнаць аўто з Германіі. Справу узяў пад свой кантроль начальнік абласной міліцыі.

**Паставы.** Пад коламі цягніка "Лынтупы-Віцебск" загінуў 52-гадовы жыхар райцэнтра, які ляжаў у каляіне чыгункі. Машыністу не ўдалося прадухіліць наезд.

**Віцебск.** Новапабудаваны храм Езуса Міласэрнага ў абласным цэнтры па рашэнні Ватыкана стаў катэдральным касцёлам Віцебскай дыяцэзіі. Свята з гэтай нагоды адбудзецца летам.

**Орша.** У горадзе быў перавышаны эпідэміялагічны парог захворваемасці на ВРВІ і грып, прыйшлося ўвесці шэраг каранцінных абмежаванняў.

**Полацк.** На базе агратурыстычнай гаспадаркі "Ля Крыніцы" ў другі раз прайшоў чэмпіянат раёна сярод аматараў парылкі і здаровага ладу жыцця з ныраннем у палонку.

**Віцебск.** Міліцыя затрымала трох мужчын з Баранавіцкага раёна па падазрэнні ў забойстве жыхаркі вёскі Тарасенкі, якая атрымлівала валюту як былая вязніца канцлагера.

**Наваполацк.** У ходзе чарговай дабрачыннай акцыі гараджане сабралі сем'ям для лячэння іх цяжкахворых дзяцей у сярэднім па 650 тысяч рублёў, адной з іх перадалі 2 мільёны.

**Дзісна.** У 2011 годзе ў Дзісне адбудзецца свята вялікага набажэнства - кананізацыя святара Шаркоўшчынскага прыхода айца Жданава. Зараз у Васкрэсенскай царкве ідзе капітальны рамонт. Богаслужэнні праводзяцца на магілках у Адзігітрыеўскай царкве.

Служба інфармацыі "ВГ".

■ Уладзімір Скрабатун

# Галубоў Сад



Даўно было жаданне наведаць Галубоў Сад. Вось толькі дзе ён знаходзіцца, ніхто толкам патлумачыць не змог. Ці то ў Івесі, ці то каля Псуі, ці яшчэ дзесьці… У даведніках нават указаны адрас: Глыбоцкі раён, в. Івесь, вул. Прыазёрная, 1. Але, як ні шукай, ні распытвай – ніякага Галубова Сада там не знойдзеш.

– Ну, куды сёння паедзем у вандроўку? – пытае ў аўтара Кастусь Бахір, з якім было нямала сумесных вандровак па Глыбоччыне і Пастаўшчыне.

– Хацелася б пабачыць той славуты Галубоў Сад, пра які шмат чуў, але ніхто так і не змог лакалізаваць тое месца.

– Дык не пытанне! Завязу! Я там рыбачыў. Ведаю!

Прыехалі. Як сталася, тое месца я бачыў і не аднойчы, толькі з іншага, супрацьлеглага берага возера Доўгага. Там было лецішча пісьменніцы Вольгі Іпатавай, да якой на працягу некалькіх гадоў мы штораз наведваліся. На тым, супрацьлеглым беразе возера былі бачныя вялізныя дубы на пагорках. Яшчэ тады склалася ўражанне, што гэтая дуброва – не проста дуброва, а нейкі колішні панскі парк.

На падрабязных польскіх картах да 1939 года ў гэтых мясцінах адзначаны фальварак з рамантычнаю назваю Тэрэс Двор (Тэрэсдвор) і калонія (Kol.) без назвы, але, зазвычай, калоніі называліся па бліжэйшым населеным пункце і на картах не падпісваліся. Атрымліваецца – калонія Псуя. Быў такі тып паселішча ў даваеннай Польшчы. Дык што такое Галубоў Сад? Парк Тэрэсдвара альбо калоніі Псуя? І хто такая Тэрэса, па імені якой быў названы панскі двор?

Настаўнік Зябкаўскай БШ Юрый Пілімон, які ўдзельнічаў у нашай вандроўцы, сцвярджае, што парк Галубоў Сад атрымаў свой назоў ад апошняга пасяленца гэтых месцаў па прозвішчы Галуб. Гісторыя гэтай сям'і цікавая і досыць трагічная, але заслугоўвае асобнай публікацыі.

Пры ўваходзе ў Галубоў Сад – шлагбаум. Шыльда паведамляе: "Дзяржаўная прыродаахоўная ўстанова "Галубоў Сад". Возера Доўгае." Аднак, нягледзячы на ахоўны статус, Галубоў Сад – месца, прызначанае для масавага адпачынку. Альтанкі, навесы, месцы для вогнішчаў, кантэйнеры для смецця і драўляны мосцік, які далёка ўпіраецца ў возера.

На беразе возера Доўгае звяртае на сябе ўвагу вялізнае двухствольнае дрэва. Гэта – вяз шурпаты, які ўзвышаецца над усімі навакольнымі дрэвамі. Унікальны не толькі для дадзенай тэрыторыі, але і ў цэлым для Віцебскай вобласці і нават для краіны. Дыяметр кожнага са сваалоў яго больш за 1 метр. Раней вяз быў трохствольным, але адзін ствол адгніў і быў пазней спілаваны, агульны дыяметр дрэва ля аснавання быў 2 метры. Ствалы вяза зрасліся да вышыні 1,5 метра. Пры спрыяльных умовах вяз наогул можа дасягаць вышыні 40 метраў.

Расце тут вельмі рэдкі для рэгіёна від хмызняку – каліна-гардавіна. Гэты хмызняк вельмі рэдкі ў Віцебскай вобласці і ў той жа час вельмі дэкаратыўны. А самае галоўнае, што ён расце тут яшчэ з часоў дзейснай сядзібы, гэта значыць, нароўні з уласна дэкаратыўнымі ўласцівасцямі ён уяўляе сабою і гістарычную каштоўнасць.

Зразумела, калі Галубоў Сад – колішні панскі парк, то павінны былі застацца падмуркі колішніх гаспадарчых і жылых пабудоваў. Падмуркі сядзібнага дома мы знайшлі на вяршыні камавага ўзгорка. Сядзібны дом, які не захаваўся і кажуць, што згарэў у апошнюю вайну, займаў некалі найбольш высокую пазіцыю сярод навакольнага ландшафту. Сядзібу атачалі лінейнымі і групавымі пасадкамі дрэў і хмызнякоў. Захаваліся тут некалі высаджаныя пладовыя дрэвы і хмызнякі: яблыня дамашняя, груша звычайная, сліва дамашняя, агрэст звычайны і некаторыя іншыя.

Той дзень, калі мы наведалі Галубоў Сад, была сярэдзіна восені – 10 кастрычніка. Шмат дрэваў ужо стаяла без лістоты. Таму цяжкавата, не будучы спецыялістам у гэтай галіне, вызначыць пароды шматлікіх дрэваў, што тут знаходзяцца. Аднак прысады з клёна вастралістага ўсё яшчэ стаялі ў золаце восені. У прысадах поруч з клёнамі расце і ліпа драбналістая.

Некалі, у даўнія часы, ад сядзібнага дома, які стаяў на вяршыні пагорка, у бок возера, на тэрасу, спускалася каменная лесвіца, якая не захавалася.

Даступныя даведнікі паведамляюць, што самай шматлікай групай наземных хрыбетнікаў, якія насяляюць Галубоў Сад, з'яўляюцца птушкі. З 305 відаў птушак, якія сустракаюцца ў Беларусі, у заказніку зарэгістравана 77 відаў, у пералік якіх не ўключаны пералётныя і якія зімуюць, што складае 25,2% поўнага спісу відаў фаўны птушак, ці 34,2% ад відаў птушак, якія гняздуюцца на тэрыторыі Беларусі.

У парку адзначаны від грыбоў, які ахоўваецца, – порхаўка гіганцкая, а таксама даволі рэдкі для Віцебскай вобласці від з групы звездавікоў – звездавік сесілевы.

У цэлым Галубоў Сад пакінуў прыемнае ўражанне! Маляўнічыя пагоркавыя краявіды над самым глыбокім возерам краіны! З'явілася жаданне прыехаць сюды не адзін раз і ў розныя поры года. На завяршэнне нашай вандроўкі – купанне ў возеры Доўгім.

І ўсё ж засталося пытанне: хто заклаў гэты старадаўні парк? Векавыя дрэвы, якім не менш за два, а то й тры стагоддзі?! Верагоднасць таго, што гэты парк заклала спадарства Галубоў – вельмі малая! Не магла ж адна сям'я ці род жыць у адным месцы на працягу 200-300 гадоў. Хаця гіпатэтычна такое магчыма. Польская карта

*Заканчэнне на стар. 5*



**На беразе возера знаходзіцца ўнікальны для Беларусі асобнік вяза. Ён узвышаецца над усімі навакольнымі дрэвамі.**




**Псуя і ваколіцы. Вынятка з карты 3-вёрсткі сярэдзіны XIX ст.**

**Заканчэнне.**
*Працяг са стар. 4*

да 1939 года і нашае наведванне парка не дало на тое ніякага адказу, акрамя аднаго – на месцы Галубова Сада было паселішча – калонія Псуя. Тэрэсдвор знаходзіўся на крокаў трыста далей на поўнач.

І ўсё ж неўзабаве адказ быў знойдзены на іншай карце – сярэдзіны XIX стагоддзя. Мы змяшчаем тут вынятку з той карты (стар.4).

Ля рэчкі, якая выцякае з возера Доўгага і ўпадае ў возера Шо, адзначаны панскі двор Псуя. Карчма пры дарозе. Гэта і ёсць тое месца, якое сёння клічуць Галубоў Сад.

Пачытаем гісторыю Псуі… У «Полацкай рэвізіі» 1552 г. паведамляецца, што Баркулаб Іванавіч Корсак, нашчадак роду Корсакаў, меў 3 «дымы», людзі з якіх працавалі ў двары па 3 дні на тыдзень. Вольных людзей 12 «дымоў», з якіх сяляне «з усякага збожжа» чацвёртую частку здавалі ўладальніку. Адзначана, што была царква Святой Тройцы, раней пабудаваная Корсакамі. У 1620 г. Псуя падзелена на 3 часткі паміж братамі Пятром, Сцяпанам і Іосіфам Корсакамі. У 1623 г. Іосіф Корсак сваю частку зямель з цэнтрам у Псуі прадаў Міхаілу Раманавічу Корсаку. Пазней ад Корсакаў Псуя перайшла да Рамуальда Падбіпенты — маршалка дзісенскага. Яго дачка Юстына выйшла замуж за Яна Дэспата-Зяновіча, нашчадкі якога гаспадарылі тут да канца XIX стагоддзя. У канцы XVIII ст. у Псуі быў гаспадарскі двор, пабудаваны з дрэва, уніяцкая царква, перароблeная ў праваслаўную ў 1841г.. У гэтай царкве ў 1621г. выраблены звон з надпісам на лацінскай мове. У 1888г. Псуя дзялілася на некалькі частак: мястэчка Псуя (Празароцкай воласці) — 7 дамоў, 53 жыхары, царква Святога Міхаіла; фальварак Старая Псуя — 1 дом, 18 жыхароў; фальварак Новая Псуя — 1 дом, 33 жыхары; вёска Псуя над рэчкай Ішанкай — 4 дамы, 18 жыхароў, належала Зянону Дэспат-Зяновічу.

Фраза “вёска Псуя над рэчкай Ішанкай” дастаткова дакладна лакалізуе месца. Іншых рэчак, якія б выцякалі з возера Доўгага, – няма, акрамя адной, якая цячэ ў возера Шо.

Месца, дзе знаходзіцца Галубоў Сад, і ёсць тое месца, дзе знаходзіўся спадчынны маёнтак Корсакаў, які ў рэшце рэшт перайшоў да Дэспат-Зяновічаў.

Не будзем гадаць, хто менавіта заклаў гэты парк: Корсакі, Падбіпенты альбо Зяновічы? Напэўна, кожны з гаспадароў зрабіў свой унёсак у закладку парка, які сёння клічуць Галубоў Сад.

Колькі вады ўцякло з таго часу!… Шмат чаго змянілася. Няма ўжо той затокі на возеры Доўгім, з якой выцякала рэчка Ішанка. Там цяпер балота. Дый рэчка ў спякотнае лета цяпер, бывае, перасыхае.

Зрэшты, змянілася (хутчэй, удакладнілася) і дата першай згадкі аб Псуі ў гістарычных дакументах.

Ёсць такое даследаванне Васіля Вароніна “Палітычны лад Полацкага ваяводства ў першай палове XVI ст.”, дзе ёсць, са спасылкай на дакумент, такая цытата: “Астафій Корсак вядомы па дакументах з 40-х г. XV ст. У 1440 г. ён атрымаў ад Казіміра 6 чалавек “даннікаў” на Псуі”.

У Псуі – 571 год пісанай гісторыі! І тут знаходзіцца адзін са старадаўніх паркаў Беларусі.

**Дзеля даведкі:**

Мы не хацелі б заблытаць нашых чытачоў. Справа ў тым, што на сёння ў Псуі – два старадаўніх паркі. Тэмай нашага апавядання быў менавіта Галубоў Сад – парк, які размешчаны на ўсходнім беразе возера Доўгага. Іншы панскі парк размешчаны ў цэнтры паселішча на беразе возера Псуя. Апошнім уладальнікам гэтага маёнтка быў Атон Косаў. Гэты парк не менш цікавы за Галубоў Сад, але патрабуе асобнай публікацыі. Просім улічыць гэтую акалічнасць і не блытаць гэтыя два паркі, якія размешчаныя ў розных месцах і на значнай адлегласці адзін ад другога.

На сучасных падрабязных картах, між іншым, усё яшчэ адзначана вёска Новая Псуя, якая згадваецца ў старадаўніх дакументах як фальварак Новая Псуя і размяшчаецца недалёка ад Галубова Сада. Праўда, у наяўнасці мы ўбачылі толькі ферму і дзве пустыя хаты, і тое пацвердзілі ў Псуеўскім сельсавеце.



Галубоў Сад. Відарыс на возера Доўгае.

# Лонка

**Фадзей Шымуковіч,**
*старэйшына старадаўняй часткі Дзісны.*

За 2 км на ўсход ад Дзісны ў пройме ракі Заходняя Дзвіна размясціўся маёнтак Лонка. Землі тут ураджайныя, а далягляды цудоўныя. Паралельна Заходняй Дзвіне, на адлегласці ад яе 1-1,5 км у пройме працякае невялікая рачулка Лонка, даўжыня якой каля 10 км. Не даходзячы Дзісны прыкладна 2 км, яна робіць рэзкі паварот управа і накіроўваецца да Дзвіны. У пройме Лонкі няма рэзкага рэчышча, але пры ўпадзенні ў Дзвіну яна ўтварае роў з прыгожымі стромкімі берагамі. Асабліва стромкі і высокі левы бераг гэтага яра, па дне якога цячэ Лонка.

Акрамя таго, што тут праходзіў гандлёвы шлях з варагаў у грэкі, землі ў проймах рэк Дзісны і Заходняй Дзвіны высокаўраджайныя, маюць добрыя пад’язныя шляхі, то і жадаючых завалодаць імі было дастаткова.

Маёнтак Лонка ўключаў 13 невялікіх вёсак. Усе яны належалі таму гаспадару, хто быў уладальнікам Лонкі. Гаспадары часам мяняліся.

Здаўна Лонкай валодалі полацкія епіскапы, хаця маёнтак знаходзіўся на вялікай адлегласці ад Полацка. Валоданне гэта пацвердзіў сваёй граматай кароль Стэфан Баторый 25 мая 1586 года. Затым другі раз пацвердзіў правы полацкіх епіскапаў на валоданне Лонкай і кароль Уладыслаў IV 20 лютага 1644 г.

У 1662 годзе падстараста дзісенскі Андрэй-Аляксандр Шульц зрабіў наезд на маёнтак. Ён аб’явіў чэлядзі маёнтка Лонкі, што з гэтага часу маёнтак і чэлядзь будуць належаць старасту г. Дзісны. Архіепіскап полацкі Календа звярнуўся ў вышэйшы суд. Суд прысудзіў вярнуць маёнтак яго законнаму гаспадару і заплаціць штраф 2705 злотых за самавольства. Нягледзячы на рашэнне суда, Шульц прадаўжаў гаспадарыць на землях Лонкі. У 1667 годзе ён пабудаваў новы дом і ўсе неабходныя гаспадарчыя пабудовы.

Судовы працэс узнавіўся і цягнуўся доўгіх 60 год. Толькі ў 1722 годзе канфлікт утраслі мірным шляхам. Архіепіскап полацкі ўніяцкай царквы Фларыян Грабніцкі даў згоду прадаць маёнтак дзісенскаму старасту Фабіяну Паплёўскаму-Козелу за 600 талераў.

У самым канцы 18 стагоддзя пасля далучэння нашай тэрыторыі да Расіі маёнтак Лонка імператрыца Екацярына II аддала князю Фралову. Пасля смерці старога князя да ўлады прыступіў яго сын, генерал-ад’ютант




**Дзісна і ваколіцы на польскай карце да 1939 года. Побач справа – Лонка (Łąka). На тым беразе Дзвіны – СССР, граніца – па сярэдзіне ракі.**

Яго Імператарскага Правасхадзіцельства, сенатар Ігнацій Фралоў. Ігнацій Фралоў быў добрым аграномам, і яго кніга “ О земледелии для средней полосы России” была вядома і карысталася аўтарытэтам да Першай сусветнай вайны.

У 1879 годзе памірае Фралоў, якога пахавалі на агульных могілках у Лонцы, звычайна вядомых людзей хавалі на могілках у Дзісне. З гэтага часу Лонка пераходзіць да дачкі генерал-ад’ютанта і сенатара княжны Адаеўскай-Маславай. Княгіня не мела дзяцей, і пасля яе смерці перад пачаткам Першай сусветнай вайны Лонка аказалася без гаспадара і перайшла ва ўласнасць дзяржавы.

Пасля таго, калі ў 1921 годзе згодна Рыжскаму мірнаму дагавору Ленін без згоды беларусаў аддаў Заходнюю Беларусь Польшчы, польскі ўрад пачаў пасяляць на беларускіх землях асаднікаў, выдзяляючы для іх зямельныя ўчасткі з дзяржаўных і канфіскаваных зямель. Лонка стала ўласнасцю польскага асадніка. У 1939 годзе, калі Заходняя Беларусь была вызвалена ад польскай акупацыі і далучана да БССР, некаторыя з асаднікаў паспелі збегчы за мяжу, а хто не паспеў, таго вывезлі ўглыб Расіі. Лонка страціла свайго апошняга ўладара.

У час вайны пустуючае памяшканне было раскрадзена. Пасля вызвалення нашай тэрыторыі ад нямецкай акупацыі пачалося ўзнаўленне горада. За 2 км ад Дзісны ў в. Горкі пачалі ўзнаўляць цагляны завод, які раней належаў Медунецкаму, дзе выраблялася не толькі цэгла, але і керамічная чарапіца. Да чарапіцы рукі не дайшлі, а вось для абпальвання цэглы патрэбны былі сухія дровы. Вось і пачалі на дровы разбіраць пустуючыя панскія пабудовы. Не мінулі і Лонку.

Мой сын Сяргей, будучы студэнтам гістарычнага факультэта БДУ, курсавую работу і дыпломны праект пісаў на тэму: “Гісторыя горада Дзісны і яе ваколіц”. Акрамя архіўных дакументаў, распытваў старажылаў Дзісны, наведваў і вывучаў месцы. У 1995 годзе на роварах мы з ім паехалі на тое месца, дзе калісь знаходзіўся маёнтак Лонка. Палявая дарога прывяла нас да самай Заходняй Дзвіны. Месцы вельмі прыгожыя. На правым беразе рачулкі Лонкі мы прыйшлі да выніку, што тут часта бываюць прыхільнікі прыроды, аб чым сведчылі абрыўкі газет, пустыя банкі з-пад кансерваў, бутэлькі з-пад розных напояў і іншыя атрыбуты піру.

Калі перабраліся на левы, больш высокі бераг, які ўзвышаўся над поймай Дзвіны на 2-2,5 м, нам адкрылася цудоўная панарама. Каля абрывістага высокага берага, амаль ля нашых ног, спакойна несла свае воды Заходняя Дзвіна. Удалечыні, на правым беразе, дзе пойма была некалькі ніжэй, на некаторай адлегласці ад ракі суцэльнай сцяной стаяў прыгожы лес. Асабліва прыгожым ён быў восенню. Узнікала асацыяцыя, што мастак з гэтага пейзажу намаляваў карціну “Залатая восень”.

Прыкладна на гектарнай плошчы яўна праглядваліся фундаменты жылога дома і гаспадарчых пабудоў. Некалькі старых засохлых яблынь напаміналі аб тым, што калісьці тут быў сад. Бераг Заходняй Дзвіны і рачулкі Лонкі абсаджаны ліпамі, клёнамі, вязамі і іншымі дэкаратыўнымі раслінамі і дрэвамі. І хоць усё гэта стварала цудоўную карціну, але і напаміналі аб тым, што назаўсёды згублены яшчэ адзін гістарычны аб’ект нашай сучаснасці.

Метраў за 800 знаходзіцца могільнік. Тут адкрылася суцэльнае запусценне. Мы з цяжкасцю сярод зарасляў адшукалі магілу Фралова. Помнік кубічнай формы, высечаны з маналітнага граніту, ляжаў побач з магілай. Папрацавалі варвары. Мы не ўбачылі яўных раскопак магілы, але і не знайшлі пацвярджэння, што іх не было. Паспрабавалі паставіць помнік на месца, якое яму належала, але не хапіла сіл.

Усё гэта навявае на цяжкі роздум.

## Стары альбом

# Пажарная каманда мястэчка Пліса



**Фота з альбома М. Цімкінд, г. Рэхавод, Ізраіль.**

Пожарная команда Плиссы 1935 год
Среди них немало евреев.

■ А.В. Протас,
*начальнік Глыбоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

*Захаваем нашу прыроду!*

# Грубыя парушэнні пачынаюцца з дробных

Галоўны рэсурс нашай дзяржавы, акрамя народа, мазгоў і рук, – гэта той дарунак, які нам паднесла прырода ў выглядзе расліннага і жывёльнага свету, – сказаў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка падчас справаздачы начальніка Дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету Мікалая Фурсевіча.

Ахове і рацыянальнаму выкарыстанню прыродных багаццяў Беларусі будзе надавацца першарадная ўвага, гэта не толькі пытанні адпачынку, але і велізарны эканамічны рэсурс.

У 2010 годзе Дзяржінспекцыяй выяўлена 14 тыс. 180 парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства, найбольшая колькасць парушэнняў выяўлена ў вядзенні рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства, звыш 8 тыс. выпадкаў.

У гэтым годзе супрацоўнікі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету працягнуць актыўную і мэтанакіраваную працу па спыненні фактаў браканьерства і варварскага стаўлення да прыроды. Адмысловы ўпор будзе зроблены на выяўленні грубых парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства, але гэта не значыць, што інспектары будуць праходзіць міма малаважных парушэнняў: выкід смецця, стаянка аўтатранспарту ў водаахоўнай зоне і г.д.

Бо не сакрэт, што грубыя парушэнні пачынаюцца з дробных з-за ўсёдазволенасці, прававой непісьменнасці грамадзян, абыякавага стаўлення да захавання прыроды, мы закідалі пабытавым смеццем берагі вадаёмаў, лясы, вынішчылі рыбу электраўстаноўкамі, сеткамі, восцямі. Часта можна чуць папрокі ў адрас інспектараў, асабліва з боку затрыманых за парушэнні: дзе вы былі, калі на возеры лавілі электравудачкай ці сеткамі. Аднак, паважаныя грамадзяне, да кожнага вадаёма інспектара не паставіш, а адзін з абавязкаў грамадзян – берагчы і ахоўваць прыроду, і калі мы сумеснымі высілкамі, актыўнай грамадзянскай пазіцыяй не навядзём парадак, то грош нам цана.

Зіма ў гэтым годзе вельмі цяжкая для жывёл: глыбокі снег, частыя адлігі, а затым замаразкі ўтварылі цвёрдую ледзяную скарынку, якая не дазваляе жывёлам дабрацца да ежы і становіцца непераадольным бар'ерам для перамяшчэння буйных жывёл. Супрацоўнікі інспекцыі рэкамендуюць і пераканаўча просяць грамадзян устрымацца ад хаджэння па лесе, каб не палохаць лясных жывёл, бо, уцякаючы, звяры правальваюцца ў падмерзлы снег, вострыя краі якога могуць траўміраваць ногі жывёл. Грамадзяне, якія маюць лішкі корму (збожжа, буракі, кукуруза, бульба), могуць дапамагчы дзікім жывёлам кармамі, іх можна здаць у раённыя таварыствы паляўнічых і рыбаловаў.

Асобныя браканьеры карыстаюцца становішчам жывёл і знішчаюць тых, якія выйшлі да дарог ці населеных пунктаў. Толькі за студзень 2011 года супрацоўнікамі міжрайінспекцый Віцебскай вобласці выяўлена 16 фактаў незаконнай здабычы казуль, кабаноў, ласёў, больш за 30 чалавек прыцягваюцца да крымінальнай адказнасці за браканьерства.

У зімовы перыяд супрацоўнікі Глыбоцкай міжрайінспекцыі шмат выяўляюць парушэнняў па інтэнсіўнай лоўлі рыбы. Часцяком грамадзяне па ўласнай няўважлівасці або паняведанні ажыццяўляюць лоўлю рыбы пры дапамозе жарліц інтэнсіўным спосабам (ад 11 да 20 штук) на вадаёмах, не прызначаных для гэтага. Грамадзяне маюць пры сабе рыбалоўны квіток і лічаць, што пры яго наяўнасці можна лавіць жарліцамі да 20 штук, аднак, калі возера не вылучана для інтэнсіўнай лоўлі рыбы,– гэта парушэнне і штраф ад 10 да 50 базавых велічынь. Таму, каб пазбегнуць непрыемнасцяў, просьба па ўсіх пытаннях звяртацца ў міжрайінспекцыю па тэлефоне 2-86-70 (кругласутачна).

Супрацоўнікі міжрайінспекцыі спадзяюцца на дапамогу грамадзян у навядзенні парадку ў нашых лясах і на вадаёмах.

Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць у Глыбоцкую міжрайінспекцыю на тэлефон «гарачай лініі»: 8-02156-28670, маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49.



## Віншаванкі

### Уладзіміра Уладзіміравіча Тапанёнка

**Віншуем з юбілеем!**

50 -это вовсе не старость
Пусть давно уже внуки растут.
50-огорченье и радость,
Благодарный и искренний труд!
50- промежуточный финиш,
50 – середина пути,
50- разве взглядом окинешь
Сколько пройдено, сколько пройти.
50 –это жизни цветенье,
Счастье длится пускай целый век.
Разве годы имеют значенье,
Если молод душой человек.

*Жонка, дзеці, унукі.*

### Марыну Міхайлаўну Раловіч

**Віншуем з юбілеем!**

Желаем много радости, здоровья,
Прекрасных дней и долгих, ярких лет!
Пусть согревают близкие любовью,
В глазах всегда сияет счастья свет!
Пусть этот день исполнит все желанья,
На сердце станет в этот миг светлей.
Желаем мы добра и процветанья
И чтобы все мечты сбывались поскорей!

*Сястра і яе сям'я.*

### Марыну Міхайлаўну Раловіч

**Віншуем з юбілеем!**

В твой чудесный день рожденья
Нам разреши тебя обнять,
И подарить стихотворенье,
Любви и счастья пожелать.
И пусть здоровье будет крепким,
А сердце вечно молодым,
Пусть каждый день твой будет светлым
На радость нам и всем родным!

*Бацькі.*

## У 2010 годзе ў дачыненні да супрацоўнікаў беларускай міліцыі было распачата 140 крымінальных спраў

**У 2010 годзе ў дачыненні да супрацоўнікаў беларускай міліцыі было распачата 140 крымінальных спраў. Пра гэта на прэс-канферэнцыі 26 студзеня паведаміў міністр унутраных спраў Анатоль Куляшоў. У 2009 годзе такіх крымінальных спраў было 192.**

Паводле слоў кіраўніка МУС, 52% ад усіх распачатых спраў датычацца злачынстваў супраць інтарэсаў службы. Прыкладна 70% спраў было распачата пракуратурай паводле матэрыялаў упраўлення ўласнай бяспекі МУС.

Куляшоў паведаміў, што летась міліцыя адрэагавала амаль на 2 мільёны паведамленняў грамадзян пра злачынствы, правапарушэнні. Гэта на 5% менш, чым годам раней. Амаль удвая ўзрасла колькасць заяў, якія не адносіліся да кампетэнцыі органаў унутраных спраў. «Я гэта расцэньваю як станоўчы момант і лічу, што гэта паказчык ступені даверу насельніцтва да праваахоўных органаў»,– сказаў міністр.

Паводле яго інфармацыі, праведзены маніторынг ступені даверу насельніцтва паказвае, што 36% грамадзян поўнасцю давяраюць органам унутраных спраў, 55% давяраюць, але не ў поўнай меры. У 2010 годзе на 0,5% узрасла колькасць людзей, якія адчуваюць сябе бяспечна ў сваім населеным пункце.

*Вячаслаў Будкевіч, БелаПАН.*

## Конкурс візуальных сімвалаў

**Belarus Watch (Вільня) сумесна з «Офісам за дэмакратычную Беларусь» (Брусель) у складзе кааліцыі грамадскіхарганізацый у Беларусі і краінах ЕС абвяшчае конкурс візуальных сімвалаў (лагатыпаў, лозунгаў, назвы) для грамадскай кампаніі «За бязвізавы рух паміж Беларуссю і Еўрапейскім Саюзам».**

Грамадская кампанія будзе праходзіць у Беларусі і краінах Еўрасаюза. Яна накіраваная на тое, каб мара аб свабодзе руху без межаў калісьці змагла стаць рэальнасцю. Голас грамадскасці вакол межаў мусіць быць пачуты!

Кампанія мае патрэбу ва ўласным лагатыпе / банеры, буклеце і візуальным слогане.

Арыентацыйныя слоганы кампаніі:

REMOVE VISA WALL

VISA FREE BELARUS NOW

ЗА БЕЗВИЗОВУЮ БЕЛАРУСЬ!

ЕВРОПА, МЫ СВОИ!

ЗА БЯЗВІЗАВУЮ БЕЛАРУСЬ!

ЕЎРОПА, МЫ СВАЕ!

Аўтар можа прапанаваць свае варыянты слоганаў і назвы.

Аўтара найлепшага эскіза будзем рады запрасіць стаць афіцыйным партнёрам кампаніі і выплаціць ганарар у памеры 300 еўра.

Варыянты трэба даслаць да 12:00 14 лютага 2011 г.

Звароты, ідэі і пытанні вітаюцца! Звяртайцеся па нумары ў Літве +37067162014, скайп marianailj або па адрасе сеткавай пошты belaruswatch@belaruswatch.org.

Аўтар-пераможца павінен даслаць поўнафарматную версію свайго твора для друку цягам двух працоўных дзён пасля абвяшчэння вынікаў.

■ А.Н. Ішуцін,
*інспектар энергаінспекцыі Глыбоцкага МРА « Энерганагляду»*

## Няправільнае падключэнне электрапрыбораў – смяротна небяспечна

Шматразова ў сродках масавай інфармацыі абмяркоўвалася пытанне пра правільнае падключэнне хатніх электрапрыбораў, але мы ўсё адно давяраем незнаёмым «дзядзькам», якія не маюць дастатковага досведу і кваліфікацыі на вытворчасць электрамантажных прац. Вядома, такі «дзядзька» зробіць працу ўдвая танней, чым спецыялізаваная электрамантажная арганізацыя, але без якой-небудзь гарантыі на бяспечную эксплуатацыю электрапрыбораў. Вось з-за такіх «дзядзькоў» даволі часта адбываюцца няшчасныя выпадкі сярод насельніцтва.

Так, у лютым 2010 года ў горадзе Мінску ад судотыку з задняй сценкай пральнай машыны, усталяванай у ванным пакоі, загінула дзяўчына 1993 года нараджэння. Пры расследаванні прычыны няшчаснага выпадку было выяўлена, што пральная машына была падключана з парушэннямі дзейсных правіл.

У лістападзе 2010 года ў н.п. Турэц-Баярскі з-за няправільнага падключэння пральнай машыны загінула жанчына 1972 года нараджэння – маці чацвярых дзяцей.

Ёсць такое выказванне: нельга эканоміць на ўласным здароўі, дык чаму ж мы ўвесь час эканомім на ўласным жыцці. Для вытворчасці электрамантажных прац наймайце спецыялізаваныя электрамантажныя арганізацыі, якія адказваюць за якасць выкананых прац.

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ "Вольнага Глыбокага"

14 – 20 лютага 2011 г.



Вы можаце падаць сваю прыватную абвестку і па хатнім тэлефоне на нумар 166 кругласутачна. Выразна назавіце газету. У дадзеным выпадку – "Вольнае Глыбокае".

Кошт абвесткі аб'ёмам да 5 слоў – 2500 рублёў. Кожнае далейшае дадатковае слова – 300 рублёў.

Абвестка тлустым шрыфтам да 5 слоў – 3000 рублёў. Кожнае далейшае дадатковае слова – 400 рублёў.

Між тым, парадак прыёму прыватных абвестак у месцах продажу нашай газеты – нязменны.



## ПАНЯДЗЕЛАК, 14 лютага



**06.00, 07.00, 08.00, 09.00,12.00,13.00, 14.00,15.00,16.00, 17.00,18.00,19.00, 00.10** Новости.
**06.05, 07.10, 08.15** «Доброе утро, Беларусь!».
**06.45** Nota Bene.
**07.05, 08.10** Зона Х.
**07.30, 08.25, 11.55** Деловая жизнь.
**08.30** «В мире моторов».
**09.10** Женское ток-шоу «Жизнь как жизнь». «Расскажу тебе сказку».
**10.10** Здоровье.
**10.35** Культурные люди.
**11.05** **«Затмение»**
**12.10** Комедийная мелодрама **«Любовь на сене»**
**14.05** «Моя правда» Фильм «Любовь Успенская».
**15.15, 19.15** Новости региона.
**15.40** «OFF STAGE LIFE»
**16.05** Nota Bene.
**16.30** **«Маршрут милосердия»**
**17.20** **«Затмение»**.
**18.25** «Окно в Европу».
**18.50, 00.20** «Зона Х».
**19.25** «КЕНО».
**19.30** «Арена».
**19.55** Ответный ход.
**21.00** «Панорама».
**21.45** 53-я церемония вручения музыкальной премии «Грэмми».
**00.30** День спорта.



**06.00, 09.00** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.05** Контуры.
**10.10** **«Моя жена меня приворожила»**.
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** «Смак».
**11.50** **«Папа на все руки»**. Комедийный сериал.
**12.20** «Детективы».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** Контрольная закупка».
**13.45** «Модный приговор».
**14.50** «Понять. Простить».
**15.25** «Хочу знать»
**16.00** Наши новости.
**16.10** Новости спорта.
**16.15** **«Обручальное кольцо»**. Многосерийный фильм.
**17.05** **«Слово женщине»**. Многосерийный фильм.
**18.00** Наши новости.
**18.15** Новости спорта.
**18.20** «Обратный отсчет». «Необъявленная война 21-го. Последнее задание «Красавицы».
**18.55** «Жди меня».
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** Ток-шоу «Открытый формат».
**22.10** «Непереписанная история. Польский излом».
**23.10** Наши новости.
**23.25** Новости спорта.
**23.30** «Лидия Смирнова. Женщина на все времена».
**00.30** **«Иван Подушкин. Джентльмен сыска»**. Многосерийный фильм.
**01.20**-01.40 Ночные новости.



**06.35** **«Универ»**
**07.00** ЛАДное утро.
**08.00** Телебарометр.
**08.05** **«Чисто английские убийства»**
**09.00** **«Ты моя жизнь»**
**10.05** Музыкальная фильм **«Весенняя сказка»**
**11.35** Пра мастацтва.
**12.00** Школа ремонта.
**13.05** Премьера. Комедийный сериал **«Приключения солдата Ивана Чонкина»** (Россия). 1-я серия.
**13.55** **«Сила притяжения»**
**14.55** **«Семейка пиратов»**
**15.20** Внеклассный час.
**15.35** Новости погоды.
**16.05** **«Налетчики»**
**16.55** **«Чисто английские убийства»**
**18.00** **«Ты моя жизнь»**
**19.05** **«Женатый холостяк»**. Комедия (СССР).
**20.45** Калыханка.
**21.00** Телебарометр.
**21.05** Белорусское времечко.
**22.05** **«Интерны»**
**22.40** **«Универ»**
**23.15** Овертайм.
**23.45** Футбол. Чемпионат Англии. Премьер-лига. Обзор тура.
**00.40** **«Налетчики»**



**06.00** «24 часа»
**06.10** «Минщина»
**06.20** «Утро»
**07.30** «24 часа»
**07.40** «СТВ-спорт»
**07.45** «Утро»
**08.30** «Неделя».
**09.35** «Большой завтрак»
**10.05** «Пять историй»
**10.30** «24 часа»
**10.40** «Держи меня крепче».
**11.40** «Званый ужин»
**12.35** «Я-путешественник»
**13.00** «У парадного подъезда» с Екатериной Забенько. Белгосцирк
**13.30** «24 часа»
**13.50** «Звездный ринг». Ансамбль «Сябры» против группы «Братья Грим»
**15.00** Концерт Михаила Задорнова
**16.00** СТВ представляет: «КультУРА!»
**16.30** «24 часа»
**16.50** «Репортерские истории»
**17.10** «Наше дело»
**17.20** «Минщина»
**17.30** «Званый ужин»
**18.30** **«Огонь любви»**. Сериал
**19.30** «24 часа»
**20.00** «Столичные подробности»
**20.10** «СТВ-спорт»
**20.15** «Добрый вечер, малыш»
**20.30**«Кинопонедельник»: **«О ЛЮБВИ В ЛЮБУЮ ПОГОДУ»**. Россия, 2004г.
**22.30** «24 часа»
**22.55** «Столичный футбол»
**23.25** «Кино»: Эшли Джадд, Морган Фриман и Джеймс Кэвизел в фильме **«ОСОБО ТЯЖКИЕ ПРЕСТУПЛЕНИЯ»**.



**7:00** Тыдзень у «Аб'ектыве»
**7:30** Прэс-экспрэс
**7:45** Эксперт
**8:10** ПраСвет
**8:35** Рэмарка
**9:00** «89 міліметраў», дак. фільм
**10:20** Гісторыя пад знакам Пагоні : «Васіль Цяпінскі»
**10:35** «Усяго найлепшага!»
**12:00** Аб'ектыў
**12:05** Прэс-экспрэс
**12:20** Эксперт
**12:45** ПраСвет
**13:10** Басанож па свеце : «Розум»
**13:35** Рэмарка
**14:00** Дакументальная гадзіна: «89 міліметраў», дак. фільм, рэж. Зэбаст'ян Гайнцэль (Sebastian Heinzel), 2004 г., Нямеччына–Беларусь
**15:20** Гісторыя пад знакам Пагоні : «Васіль Цяпінскі»
**15:35** «Усяго найлепшага!»
**17:00** Аб'ектыў
**17:05** **«Мой родны горад»**: 32 серыя
**17:30** **«Час гонару»**: 16 серыя
**18:20** Прэс-экспрэс
**18:40** Мультклуб: «Малітва»
**18:45** Госць «Белсату»
**19:00** Без рэтушы: «Беларускае золата», рэпартаж, рэж. Андрэй Шобін, 2010 г., Беларусь
**19:30** Аб'ектыў
**19:35** Гарачы каментар
**19:45** Калыханка для самых маленькіх
**19:50** Еўропа сёння
**20:20** Блізкая гісторыя. Іншы погляд: «Наперад –у мінулае!», дак. фільм, рэж. Юрый Хашчавацкі, 2007 г., Беларусь
**21:00** Аб'ектыў
**21:25** Прыватная калекцыя
**21:55** Фільматэка майстроў: **«На злом галавы»**
**23:50** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы : «Сляпы Валянцін»
**0:00** Аб'ектыў
**0:25** Гарачы каментар

